# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 20 (48) 23—29 чэрвеня 1993 г. Цана 3 рублі




Успомню Вострую браму святую...

Фота В. Белавуса.

*У мясцовых філіях*

## *Утворана абласная арганізацыя*

На Магілёўшчыне адбылася абласная ўстаноўчая канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны. Яна выбрала каардынацыйную Раду, у якую ўвайшлі тры прадстаўнікі ад абласнога цэнтра і па аднаму ад Бялыніцкага, Чавускага, Крычаўскага, Круглянскага, Бабруйскага раёнаў. Далейшае пашырэнне Рады будзе адбывацца шляхам кааптацыі.

Старшынёй Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства абраны выкладчык педінстытута М. Булавацкі.

**Ю. С.**

## У НАС У ГАЗЕЦЕ НА 6-ЦІ БАЧЫНАХ:



## Не толькі цытаты

Як ужо вядома шырокаму колу віцяблян, група асобаў спрабавала праз КПП «Бігосава» вывезці груз каляровых металаў у Балтыю. У аферы ўдзельнічала супрацоўніца аблвыканкама Т. Сядзельнікава.

На днях у аблвыканкаме прайшла прэс-канферэнцыя, на каторай перад запрошанымі журналістамі мясцовых газет выступілі начальнік упраўлення унутраных спраў, следчы аблпракуратуры.

З-за таго, што карэспандэнта «Выбара» чамусьці не запрасілі, то нам даводзіцца карыстацца інфармацыяй аб гэтай падзеі з артыкула А. Бараноўскага «Афера спынена на КПП» з «Віцебскага рабочага» за 17 чэрвеня.

Давайце параўнаем дзве цытаты з гэтага матэрыяла...

**«...Журналісты, якія былі днямі запрошаны ў аблвыканкам на прэс-канферэнцыю, з адказаў следчага аблпракуратуры С. Місніка і начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў А. Кляшчонка мала што даведаліся. Тайна дазнання, папярэдні характар следства, апошняе слова скажа суд...».**

**«...І следчы аблпракуратуры, і генерал міліцыі на апошняе пытанне далі адназначны адказ: Сядзельнікава дзейнічала як прыватная асоба. Ніякіх дакументаў, якія пацвярджалі б дачыненне выканкама ці яго адказных асоб да незаконнай перавозкі металу за межы рэспублікі не выяўлена...».**

Уважлівы чытач убачыць, што другая цытата супярэчыць першай. Калі існуе тайна дазнання і апошняе слова скажа суд (а так павінна быць у адпаведнасці з законам), то чаму службовыя асобы робяць такую катэгарычную выснову на пачатковым этапе следства?

Што гэтае, прадбачанне канечных вынікаў расследавання або імкненне выдаць жадаемае за рэчаіснасць?

Аднак другая цытата, на наш погляд, не што іншае як націск на будучы суд. Вось толькі ў гэтым напрамку трэба весці судовае следства, грамадзяне суддзі. І ніяк іначай.

Зыходзячы з выказвання дзвюх службовых асоб, суддзям пакідаюць толькі права праштампаваць прысуд у адпаведнасці з прапанаванымі на прэс-канферэнцыі высновамі.

**Рэдакцыя.**

# Інвестыцыя ці продаж?

**У «Выбары» № 3 (31) змешчана публікацыя «А выяснял Сазон...», дзе былі ўзняты праблемы размеркавання новага жылля ў Віцебску.**

**Днямі рэдакцыя атрымала на свой афіцыйны беларускамоўны запыт адказы з абласной пракуратуры і савета абласнога аб'яднання прафсаюзаў, якія мы падаем ніжэй у перакладзе з рускае мовы.**

На Ваш ліст з нагоды публікацыі ў № 3 газеты «Выбар» матэрыяла пад назвай «А выяснял Сазон...» паведамляю, што пракуратурай вобласці па фактах, выкладзеных у артыкуле, праводзілася праверка. Устаноўлена, што прыцягненне сродкаў насельніцтва на жыллёвае будаўніцтва праводзілася Віцебскім гарвыканкамам на падставе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Згодна з арт. 7 дадзенага закона заключэнне дагавораў (кантрактаў), выбар партнёраў, вызначэнне абавязацельстваў і ўмоў гаспадарчых узаемаадносін, якія не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца выключнай кампетэнцыяй суб'ектаў інвестыцыйнай дзейнасці. Пры гэтым умяшанне дзяржаўных органаў і афіцыйных асоб у ажыццяўленне дагаворных адносін паміж суб'ектамі інвестыцыйных адносін не дапускаецца.

Права ўласнасці на кватэры грамадзянам давалася на падставе дагавораў аб інвестыцыйнай дзейнасці, што адпавядае арт. 6 Закона.

Пры выкладзеных вышэй акалічнасцях мераў пракурорскага рэагавання не прымалася.

**М. С. ШАХМЕТАЎ,**
**пракурор вобласці, дзяржаўны саветнік юстыцыі 3 класа.**

Пры праверцы матэрыялаў, выкладзеных у артыкуле газеты «Выбар» «А выяснял Сазон...» устаноўлена, што Віцебскі гарвыканкам перадаў у асабістую ўласнасць грамадзянам, якія праінвесціравалі будаўніцтва 23-х кватэр у 88-мі кватэрным жылым доме па вул. Чкалава, 39, корпус 3, уведзеным у эксплуатацыю 30 снежня 1992 года, і працягвае ажыццяўляць інвестыцыі грамадзян у жыллёвым будаўніцтве без уліку існуючай у гарвыканкаме чаргі тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, у адрыве ад вырашэння жыллёвай праблемы, што востра стаіць у горадзе. Уладальнікамі гэтых кватэр сталі, у асноўным, работнікі камерцыйных структур, гандлю і спажыўкааперацыі, кіраўнічыя работнікі дзяржпрадпрыемстваў. Некаторыя з іх у паляпшэнні жыллёвых умоў не мелі патрэбы ці займелі такую патрэбу ў выніку прапіскі на сваю жылплошчу блізкіх сваякоў.

Большасць дагавораў на інвестыцыю будаўніцтва жылля заключалася напярэдадні здачы дома ў эксплуатацыю, а чацвёра інвестараў праінвесціравалі будаўніцтва ў студзені 1993 года, г. зн. пасля здачы дома ў эксплуатацыю.

Прэзідыум савета абласнога аб'яднання прафсаюзаў, разгледзеўшы 17 траўня 1993 года Запіску аддзела па абароне сацыяльна-эканамічных інтарэсаў працоўных савета абласнога аб'яднання прафсаюзаў інспекцыі Кантрольнай палаты РБ па Віцебскай вобласці «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Віцебскай вобласці», прыйшоў да вываду, што згадзіцца з такім парадкам інвесціравання будаўніцтва жылля, які вядзе да сацыяльнай няроўнасці насельніцтва, нельга. У Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і Савет Міністраў РБ накіраваны прапановы па дадзенаму пытанню.

Выканкамам абласнога і Віцебскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў накіраваны матэрыялы прэзідыума савета абласнога аб'яднання прафсаюзаў.

**З. К. КРОТ,**
**старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў.**

**Ад рэдакцыі.** Калі параўнаем абодва адказы, то заўважым, што пракуратура даслала фармальную адпіску, зрабіўшы спасылкі на артыкулы адпаведнага закона. Яе адказ вытрыманы ў стылі «усё добра, прыгожая маркіза».

Таму, мусіць, начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва гарвыканкама М. Каневалаў бадзёра заяўляе на сесіі гарсавета, што пракуратура не знайшла ў дзеяннях ведамства, якое ён узначальвае, ніякага крыміналу. Магчыма, парушэння дзеючага заканадаўства ў гэтым канкрэтным выпадку сапраўды не было.

Але калі прачыталі адказ абласнога аб'яднання прафсаюзаў, узніклі пытанні.

Чаму большасць дагавораў на інвестыцыю заключалася напярэдадні здачы дома ў эксплуатацыю? А нейкія чацвёра праінвесціравалі будаўніцтва нават пасля яго здачы? Згодна з логікай, фінансаванне будаўніцтва не можа пачынацца пасля таго, як яно ўжо закончана. А ў нашым выпадку атрымліваецца менавіта так. І адсутнасць логікі не супярэчыць закону «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Такія законы маем.

Напэўна, пабудавала згаданыя кватэры за свой кошт дзяржава і толькі ў апошні момант унеслі сродкі тыя, хто пажадаў атрымаць новае жытло. Усё гэта вельмі падобна на звычайны продаж жылля «сваім» людзям. Магчыма, таму і сталі ўладальнікамі новых кватэр па-за чаргой у асноўным работнікі гандлю і спажыўкааперацыі, камерсанты, кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў. І чаму размеркаванне гэтых кватэр праводзілася ўпотайкі ад віцяблян, якія стаяць у чарзе па жыллё? Чаму гаспадарамі кватэр сталі людзі, якія не мелі патрэбы ў паляпшэнні жылля? Чаму ў рашэнні гарвыканкама гаворыцца пра 26 кватэр, а ў адказе прафсаюзаў упамінаецца 23? Куды прапалі тры кватэры? І колькі яны каштавалі ў студзені, калі прымалася гарвыканкамаўскае рашэнне? У рашэнні ўказана, што нехта Законаў атрымаў 3-хпакаёвую кватэру за 780 тысяч рублёў (столькі плацілі за 2-хпакаёвую. За 3-хпакаёвую ж—1 млн. 80 тысяч). Што гэта—памылка?

Пытанні, пытанні. Адказу на іх, пэўна, не будзе. Бо ўсё —у адпаведнасці з законам. А радавыя віцябляне будуць і далей цярпліва на працягу многіх гадоў чакаць сваёй чаргі на жыллё. Яны прывычныя да чэргаў.

# ŻEBY NIE ZAPOMNIAŁO SERCE POLSKIE...

# КАБ НЕ ЗАБЫЛА ПОЛЬСКАЕ СЭРЦА...

**Старонка Віцебскага гарадскога аддзялення Саюза палякаў Беларусі. Выпуск першы.**

## Мясцовая палонія: крыху статыстыкі

Колькі палякаў жыве зараз на Віцебшчыне? Адказ на пытанне даюць вынікі апошняга (1989 г.) перапісу насельніцтва.

Усяго палякаў 1,9% жыхароў вобласці.

Зразумела, найболей палякаў жыве ў заходніх раёнах (Браслаўскі—9862 чал., Глыбоцкі—4024, Пастаўскі—3667, Докшыцкі—1108, Шаркаўшчынскі—750). Значныя групы польскага насельніцтва сканцэнтраваліся ў буйных гарадах. На тэрыторыі Віцебскага гарсавета ягоная колькасць дасягае 1642 асобаў, Аршанскага—381. У Полацку й Наваполацку лічба палякаў складае адпаведна 520 і 578 чалавек.

У Полацкім раёне жыве 209 асоб польскага паходжання, у Віцебскім—136, у Аршанскім—71. У Лепельскім р-не статыстыка налічыла 193 палякаў, у Верхнядзвінскім—182, на Гарадоччыне—144. У Чашніцкім раёне—сто.

На землях іншых раёнаў вобласці палякі рассяліліся адносна раўнамерна. На Лёзненшчыне й Дубровеншчыне іх па 41 чалавеку. У Расонскім і Ушацкім па 60-ці. У Талачынскім, Шумілінскім р-нах адпаведна 85 і 82. У Сенненскім ды Бешанковіцкім—56 і 37 палякаў.

Агульная колькасць прадстаўнікоў польскай нацыянальнасці вырасла за дзесяцігоддзе (1979—89) па Віцебскай вобласці з 17308 да 25266. Прычым у некаторых заходніх рэгіёнах рост лічбы асобаў, якія пры перапісу назвалі сябе палякамі, уражальны. Напрыклад, на Пастаўшчыне іх колькасць павялічылася болей, чым у шэсць разоў, на Браслаўшчыне—на палову.

У большасці іншых раёнаў прырост польскага насельніцтва быў нязначны альбо нават адмоўны. Так, паменела палякаў у Чашніцкім, Лёзненскім, Бешанковіцкім, Мёрскім. На Расоншчыне мясцовая палонія захавалася на ўзроўні 1979 года.

**С. НАДЗЕЖДЗІН.**

# «НАШЫ МЭТЫ ПАТРАБУЮЦЬ ДУХОЎНАЙ ПРАЦЫ»

**Наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Віцебскага аддзялення Саюза палякаў Беларусі Аліцыяй Галуставай. Асноўныя моманты іхняй гутаркі прапануюцца Вашай увазе.**



**—Калісьці наша газета пісала пра заснаванне Віцебскага гарадскога аддзялення Саюза палякаў Беларусі. Што яно паспела зрабіць з таго часу?**

—Цяпер грамадства болей хвалююць будзённыя справы. Нашыя ж мэты—адраджэнне мовы, культуры, асвета мясцовых палякаў—на пачатку зацікавілі не так ужо й шмат людзей. Але праз пэўны час кола зацікаўленых асоб пашырылася і зараз маем болей 80 сяброў СПБ. Збіраемся некалькі разоў на месяц. На кожным паседжанні стараемся пашыраць веды пра гісторыю, культуру Польшчы.

Для многіх з нас веданне роднай мовы—сур'ёзная праблема. Пагэтаму аддзяленне адчыніла курсы польскай мовы і для дарослых, і для малых. Лінгвістычныя заняткі праводзіліся штотыднёва і на даволі добрым узроўні, таму вынікі ў большасці вывучаючых не благія.

Пасольства Рэспублікі Польшча і Галоўнае ўпраўленне СПБ прыслалі цудоўныя падручнікі і касеты, якія далі нам мажлівасць дакрануцца да крыніцы чыстае польскае мовы. Спадзяёмся адправіць у Польшчу на вучобу групу настаўнікаў, каб яны змаглі потым праводзіць урокі польскай мовы ў школах.

**—Зараз для многіх грамадскіх арганізацый знайсці памяшканне для офіса ды аплаціць арэнду—праблема...**

—Нядаўна мы атрымалі пакой у доме № 32 па вуліцы «Праўды». Аплату ўзялі на сябе гародзенскія структуры СПБ. З'явіўся і фундатар з Польшчы: «Wspólnota Polska» з Варшавы.

**—А што далей?**

—У будучыні мяркуем адкрыць невялікі Дом польскай культуры.

З Полацка, Докшыцаў, Гарадка, іншых мясцін паступаюць замовы на літаратуру—палякі жадаюць вывучаць родную мову. У Браславе і Пастаўскім раёне існуюць аддзяленні Саюза. Хочам аб'яднацца, ствараем абласную арганізацыю СПБ.

**—Якія праблемы існуюць у нацыянальным адраджэнні палякаў на Беларусі?**

—Мне здаралася чуць такое: «Ну и что, что я поляк? А на что нам этот язык? Мы всей семьей привыкли говорить по-русски». Такія людзі лянуюцца думаць, працаваць над сабой. Але настаюць часы, калі кожны павінен задумацца: хто ён ёсць?

І тут зноў паўстаюць моўныя пытанні. Дзеля вырашэння іх, а таксама для азнаямлення насельнікаў Беларусі з інфармацыяй са свету, Польшчы, мяркую, вельмі карыснай была б рэтрансляцыя тэлепраграмаў з Варшавы, першай праграмы Польскага радыё.

Разумею, што гэтае запатрабуе сродкаў. Аднак жа маем мы тры рускамоўныя каналы з суседняе Расіі.

**—Вы цудоўна гаворыце па-польску...**

—Удзячна за сваю польскасць бабулі. Да пяці гадоў я размаўляла толькі на польскай. Калі ж пайшла ў школу, былі цяжкасці: трэба было вучыць рускую мову.

Дзесьці ў трэцім класе навучылася чытаць ды пісаць па-польску. Гэтыя ўменні прydaліся ў далейшым вывучэнні ангельскай.

**—Польскасць і каталіцызм. Некаторыя варожа стаўяцца да іх. У разуменні многіх гэтыя паняцці змешаныя.**

—Мы актыўна не займаемся ў нашай філіі рэлігійнымі справамі. Аднак у будучыні магчыма ўзнікненне нейкага каталіцкага кола ў рамках аддзялення.

Я прынцыпова не згодна з меркаваннем, што як паляк, то каталік. Так сталася, што, напрыклад, зараз сярод тутэйшых палякаў шмат няверуючых.

І, зразумела, не ўсе каталікі—палякі. На жаль, штамп «раз католік—то паляк» «прастаўлены» ў свядомасці некаторых асоб, у тым ліку й на высокіх пасадах.

**—Як Вы стаўіцеся да двухмоўя ў Касцёле?**

—Двухмоўе, а фактычна трохмоўе (беларуская, польская, руская)—рэч вельмі добрая. Не трэба змушаць тых, хто з дзяцінства звяртаўся да Бога па-польску, маліцца на іншай мове ці тых, хто моліцца на беларускай, —па-польску альбо па-руску.

**—Пакуль сённяшняя ўлада з вялікай насцярогай глядзіць на мясцовых палякаў, на Польшчу і ўвогуле на Захад, арыентуючыся толькі на Усход, на Расію, істотных зменаў у становішчы польскай меншасці не адбудзецца.**

—Так.

Я мяркую, што праблема паланізацыі—надуманая, штучная. Чалавек, які ўсведамляе сябе летувісам або беларусам, альбо украінцам наўрад ці стане пачувацца палякам.

Тыя мэты, што пастаўлены нашым аддзяленнем, патрабуюць духоўнай працы над сабой. На гэтае здольны далёка не ўсе. Тым болей зараз, калі ў многіх праблемы чыста матэрыяльнага характару. Яны засланяюць усе астатнія.

**—Карціну, што Вы намалявалі, можна аднесці і да працэсаў беларускага Адраджэння.**

—Я лічу карысным працэс беларусізацыі, пераводу школ на дзяржаўную мову. Людзі павінны ведаць нацыянальную гісторыю, мову, народныя традыцыі. Новае пакаленне, якое вырасце пад знакам беларускага Адраджэння, будзе мець менш праблем.

Калі будзе адраджацца Беларусь, знікне русіфікацыя, будуць адраджацца і беларускія палякі.

Аднак калі станем варагаваць між сабою, то гэтае будзе адно на руку русіфікатарам. Нашыя спрэчкі (паміж палякамі ды беларусамі, католікамі й некатолікамі) могуць быць выгадныя толькі тым, хто хоча адцягнуць увагу грамадства ад іншых праблем, ад таго, што сапраўды пагражае.

**—Дзякуй за размову.**

Запісаў **Ю. ТУТЭЙШЫ.**



Адрэстаўраваны Уздзелаўскі касцёл на Глыбоччыне—месца яднання беларусаў і палякаў.

## УСЕ ПРАБЛЕМЫ ВЫРАШАЛЬНЫЯ

Моўныя праблемы, што паўстаюць перад беларускімі палякамі, **патрабуюць вырашэння.** Стварэнне настаўніцкіх кадраў, здольных вучыць па-польску,—адзін з выхадаў са складанага становішча. Саюз палякаў і абласны інстытут удасканалення настаўнікаў адкрываюць для настаўніцтва Віцебшчыны курсы польскае мовы. Каб трапіць на **іх, варта звярнуцца ў Віцебскае гарадское аддзяленне СПБ, што месціцца па адрасу: 210025, г. Віцебск, вул. «Праўды», д. 32,** п. 26.

Ю.С.

Гэты верш напісаны ў 1991 годзе, калі ў Докшыцы прыязджаў консул Польшчы і ўручаў польскія ўзнагароды мясцовым жыхарам, якія ў гады Другой сусветнай вайны змагаліся ў радах польскай арміі з захопнікамі.

**Іван ЛАЗУКА**

## Камбатанты

Ветэраны сусветнай другой,
Вас у Польшчы завуць камбатанты,
А вы першымі рушылі ў бой
І пайшлі на фашысцкія танкі.

І цяпер, праз віхуру гадоў,
Вас не ўсіх шчэ знайшлі ўзнагароды
Беларусаў, маіх землякоў,
Сярод вас былі цэлыя роты.

І няма ў тым ніякай віны,
Што над намі спазнілася сонца...
Многім сняцца ўжо вечныя сны,
А жывых выпрабоўвае стронцый.

Што змаглі, вы аддалі спаўна,
Вашу кроў, вашы подзвігі помнім.
Хочам мы, каб буяла вясна,—
І жывым, і загінуўшым помнік.

# Адказ правінцыяла на артыкул Мечыслава Грыба ў «Народнай газеце»

З вялікай увагай і непакоем сачыў за падзеямі на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета. Вельмі спачуваў дэпутатам ад апазіцыі, якія трымаюць на сваіх плячах такую цяжкую ношу абароны незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Якія нервы жалезныя трэба мець, каб не сарвацца, не закрычаць ад болю за Беларусь, ад няпраўды, што творыцца камуністычнай большасцю.

Але ж да тэмы. Адразу хачу зазначыць, што дадзены артыкул яшчэ раз сведчыць аб недзеяздольнасці Вярхоўнага Савета. Растлумачу. Парламент, нягледзячы на вялікія намаганні апазіцыі абараніць годнасць дзяржавы, а хутчэй усяго насуперак ёй, прыняў рашэнне аб падпісанні дагавора аб калектыўнай бяспецы. Старшыня ВС Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, да канца адстойваючы сваю пазіцыю аб нейтралітэце, уносіць прапанову аб рэферэндуме. І ў час зазначае, што калі народ скажа «Так» ваеннаму саюзу, ён пойдзе ў адстаўку, калі ж «Не»... Рабіце высновы, шаноўныя спадары дэпутаты. «Но все это можно делать до принятия решения Верховным Советом, а когда решение уже принято, то мы все должны его выполнять, либо ставить вопрос о его отмене на сессии, либо уходить с занимаемых дожностей». («НГ», №№ 104—105).

«К сожалению, случай неисполнения законов в нашей практике не единственный». А дзе быў паважаны спадар Грыб, калі Вярхоўны Савет забараніў рэферэндум аб даверы парламенту. Чаму тады не пісаў, што парушаецца закон, ігнаруецца права на ўласную думку іншых грамадзян?

Добра ведаю, што шмат на якіх прадпрыемствах рабочыя кажуць: «Скарачайце! Няма ўжо сілы бяздзейнічаць!» Лепш плаціць дапамогу па беспрацоўю, чым утрымліваць працоўных на заводзе і разбэшчваць далей, пладзіць гультаёў. Ды і сам беспрацоўны, напэўна, не сядзеў бы як зараз, не чакаў бы жабрацкай зарплаты, а заняўся б нейкай сваёй справай. Каму б было горш ад гэтага?

«... абсолютное большинство государств в мире входит в системы коллективной безопасности...». Напэўна, так, але ж тое незалежныя дзяржавы, а наша Беларусь яшчэ толькі будуе сваю дзяржаўнасць, і з Расеяй у яе розныя геапалітычныя інтарэсы. І вельмі небяспечна для дзяржаўнасці Беларусі аказацца ў адным хаўрусе з Расейскай Імперыяй.

«...военнослужащие Вооруженных Сил Республики Беларусь не могут принимать участие в вооруженных конфликтах на территории других государств без разрешения Верховного Совета Республики Беларусь».

І смешна, і сумна. Цікава атрымліваецца. Нас бараніць будуць усе, мы ж—толькі сябе. Як жартуюць, спачатку вашу маліну з'ядзім, потым кожны сваю.

Так, вашы дзеці ваяваць не пойдуць. Ваяваць пойдуць дзеці даярак, трактарыстаў, простага люду.

«...договора о размещении войск других государств на нашей территории в обязательном порядке должны ратифицироваться Верховным Советом Республики Беларусь».

Дык гэта як раз чыхнуць, асабліва ўвесці замежныя войскі на беларускую зямлю. (Успомнім Афганістан). Чужымі войскамі лепш абараняць сябе ад справядлівага гневу народа.

«Хотя эти оговорки приобретут значимость и законную силу только тогда, когда с ними согласятся другие участники договора...»

Дык што ж гэта? Ці Вярхоўны Савет сатэліт «нейкай» дзяржавы?

«Именно этот Верховный Совет несет такую нагрузку в законотворческой деятельности, которой не знал ни один созыв до этого».

Нягледзячы на дыфірамбы, якія пяе Мечыслаў Грыб, мая думка адназначная, гэта толькі імітацыя дзейнасці, а на справе ўласнае ўзбагачэнне асобных дэпутатаў за кошт збяднення астатняй часткі народа.

І толькі ў адным я згодны з паважаным аўтарам артыкула, што як ні пастаў пытанне на рэферэндуме, фактычна гэта пытанне аб даверы ВС, выражаюць волю народа яго абраннікі ці адстойваюць свае асабістыя інтарэсы. А калі ён не пойдзе шляхам рэферэндуму, гэта зноў жа пацвердзіць боязь дэпутатаў думкі сваіх выбаршчыкаў. Вось толькі каб хапіла сумлення ім выканаць вынікі рэферэндуму.

Ну, ды час пакажа.

**Васіль ІГНАЦЕНКА,**
**БСДГ.**

# Ці ёсць дзяржаўная ўлада на Беларусі?

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

Падзеі апошніх дзён, бачна, прымусяць на пэўны тэрмін сцішыцца абаронцаў калектыўнай бяспекі. Кебічы ды грыбы, што зусім нядаўна жыць не маглі без ваеннага саюза, у бліжэйшы час зменяць, як хамелеоны, афарбоўку.

Яны ўжо зараз прымоўклі. Хутка пачнуць «клапаціцца» аб дзяржаўнай самастойнасці Беларусі. Бо абставіны змушаюць.

Аднак погляды ды намеры застануцца старымі: аднавіць камуністычную імперыю. Карысці беларускаму народу ад наменклатурнага «хваляванні» аб суверэнітэце —ніякай.

Як толькі кіраўніцтва пачуе ці ўбачыць ля крамлёўскай сцяны азвярэлы напоўп з чырвонымі сцягамі на чале з Бабурыным ці Умалатавай (падобны таму, што быў 1 траўня) зноў запатрабуе ўваходжання ў сістэму калектыўнай бяспекі, а можа і ў склад Расіі.

Вось такія людзі зараз знаходзяцца ва ўладзе на Беларусі. Уладу маюць, а дзяржаўнага падыходу да яе няма. Народ, якім так кіруюць, не можа дый не мае права чакаць змен да лепшага не толькі ў бліжэйшы час, але і ў перспектыве.

Неабходны рэферэндум з пытаннем пра давер (або не) гэткім Вярхоўнаму Савету й ураду і новыя выбары ў бліжэйшы тэрмін.

Правядзенне ж рэферэндумаў па іншых пытаннях, якія будуць узнікаць у выніку непаслядоўнасці нашага кіраўніцтва, а таксама па штучна навязаным ім—марная трата часу. А кіраўнікам—магчымасць і надалей працягваць сваё перабыванне ва ўладзе.

**У. ПЛЕШЧАНКА.**

## Толькі які тавар везці?

У наш час моды на паездкі за мяжу магу прапанаваць віж у Манголію з нявыездаў за граніцы вобласці. Маршрут такі: г. Віцебск—г. Орша—вёска Пламя (на шашы ў Лепель)—вёска Манголія.

**Звыш Сур'ёзны.**

## «Ратуша» на трывалым грунце

Аб'яўлена падпіска на яшчэ адно дэмакратычнае выданне—магілёўскую «Ратушу». Індэкс газеты 63937, кошт на паўгоддзе—204 рублі.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

## Расце на вачах

Павышэнне курса долара на сусветным валютным рынку, адбілася на ім і ў Польшчы. Напрыканцы мінулага тыдня за 1 долар давалі 17100—17200 злотых. За расійскі рубель—пяць злотых.

**К. СТУСЬ.**

## НАВІНЫ

У сярэдзіне жніўня павінен быць адчынены новы прапускны пункт праз беларуска-польскую граніцу «Пясчатка-Полаўцы».

***

Напярэдадні афіцыйнага візіту ў Беларусь прэзідэнта **Леха Валэнсы ў Доме** Урада адбылася сустрэча намесніка Старшыні Савета Міністраў Міхаіла Дземчука з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі Эльжбетай Смулковай.

***

Летась аэрапорты Гданьска, Кракава, Познані, **Вроцлава,** Катовіц, Жэшува, Шчэціна і Зялёнай Гуры панеслі страт на агульную суму 17,7 млрд. злотых.

***

У 1992 годзе ў Польшчы выкрыта 35651 фальшывая польская і 18518 заграцічных банкнот.



**Будзь ты праклятая, вайна!**
**Фота А. ШУЛЬМАНА.**

# У ЗАМЕЖЖЫ ПРА БЕЛАРУСЬ

**«Беларускі агляд», № 4, зіма 1992/1993 г.г., змяшчае на сваіх старонках вытрымкі з артыкулаў у амерыканскім друку пра Беларусь. Некаторыя з іх мы прапануем вашай увазе.**

## «Эдмантан Джорнэл», 4.XII.92.

Дэйвід Марнлз у артыкуле «Беларусь—усё яшчэ нацыя ў кайданах» дзеліцца сваімі ўражаннямі ад візіту на Беларусь у кастрычніку 1992 г.:

«У той час, як вецер вые на плошчы Незалежнасці, спалоханыя на выгляд пешаходы, упрыгожаныя шапкамі з футра, выходзяць з набітых аўтобусаў, а наводдаль гіганцкая статуя Леніна, здаецца, звяртаецца да іх. На другім баку гэтай вялізнай плошчы электронны гадзіннік, паказвае не час, а ўзровень радыяцыі ў горадзе. Гэта—прыкмета часу. Таму што гэта—Менск, сталіца Рэспублікі Беларусь, трэцяй па велічыні славянскай рэспублікі пасля Расіі і Украіны, але той, якая найбольш пацярпела ў выніку Чарнобыльскй катастрофы 1986 года.

Ці з'яўляецца ўжо Беларусь нацыянальнай дзяржавай—спрэчнае пытанне.Назіральнік звонку заўважае мала зменаў за час постсавецкай эпохі. Парламент поўнасцю апанаваны былымі камуністамі і пастаянна ігнаруе дэмакратычныя працэдуры. Апошнім прыкладам з'яўляецца тое, што ён вырашыў праігнараваць больш чым 400 000 подпісаў, сабраных апазіцыйным Народным фронтам, пад патрабаваннем рэферэндуму аб правядзенні новых выбараў, на той відавочна прыдуманай падставе, што некаторыя з подпісаў былі падробленыя.

У той час, калі шыльды на вуліцы і назвы прыпынкаў метро падаюцца па-беларуску, вельмі мала сведчанняў таго, што на нацыянальнай мове гавораць шмат людзей. Расейская мова з'яўляецца галоўным сродкам камунікацыі. Самая папулярная штодзённая газета ў Менску—прынамсі, па распаўсюджанасці—выходзіць на расейскай мове і ўяўляе сабой камуністычнае выданне. Працуючы ў Нацыянальнай бібліятэцы, я знайшоў толькі адзін картачны каталог, прысвечаны гісторыі Беларусі, нягледзячы на той факт, што гэтая гісторыя налічвае 1000 гадоў. Запытанні пра кнігі пра гэтую гісторыю ў кнігарнях выклікаюць збянтэжаныя позіркі.

На паўднёвым усходзе і поўдні краіны ляжыць балоцістая раўніна, якая стала ахвярай найгоршага няшчаснага выпадку сучаснасці, звязанага з ядзернай інергіяй. Па меньшай меры 70 працэнтаў усіх радыёактыўных ападкаў з Чарнобыля выпалі тут. Калі звярнуць увагу толькі на радыёактыўны цэзій і яго ападкі на тэрыторыі рэспублікі, то 400 вёсак атрымалі ў колькасці, якая патрабуе эвакуацыі. З 30 населеных пунктаў, забруджаных да ўзроўню 60 кюры на квадратны кіламетр, 22 знаходзяцца ў Беларусі.

Гэткія страты ўскладняюцца іншымі фактарамі: няздольнасцю ўраду з самага пачатку правесці належныя даследаванні; тым фактам, што толькі пяць працэнтаў з фондаў, выдзеленых цэнтральнай уладай у Маскве на ліквідацыю вынікаў Чарнобыля, прызначаліся Беларусі, і фактам высокіх узроўняў утрымання радыёактыўных часцінак у глебе на поўдні краіны.

Зразумела, што менскія ўлады не спяшаліся дзейнічаць з-за традыцыі атрымліваць загады з Масквы. Складаней патлумачыць характар павольных і амаль неахвотных дзеянняў па ліквідацыі вынікаў Чарнобыля сёння. У Менску дынамічна дзейнічае Дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», які прыклаў шмат намаганняў, каб дзяцей з самых забруджаных мясцін накіраваць на адпачынак за мяжу.

На пачатку 1992 года каля 12000 дзяцей пабывалі ў такіх паездках. Урад быў незадаволены такой дзейнасцю. Спачатку ён патрабаваў, каб гэтыя дзеці абавязкова рэгістраваліся праз Міністэрства адукацыі; а пасля гэтага—каб дзеці атрымлівалі асабістыя запрашэнні. У красавіку 1992 г. праведзенае ў Менску апытанне паказала, што

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## Першае мейсца па шаленству?

Вобласць знаходзіцца на пад'ёме хвалі захворванняў жывёл на шаленства. Рост пачаўся з 1988 года. За гэты час захварэлі 414 жывёлін, з іх дзікіх—213. А гэтае ўжо не жартачкі—64 працэнты ад усіх выпадкаў па краіне.

Адначасова павялічылася колькасць укусаў звярамі людзей. Ужо за першыя пяць месяцаў года пакусана каля 900 чалавек, прычым палова з іх—дзеці. Штогод 120—180 асобам робяцца прафілактычныя прывіўкі супраць шаленства.

Становішча, як бачым, нялёгкае. Пагэтаму старшыня камісіі па ахове здароўя насельніцтва Віцебскага абласнога Савета І. Какушкін і галоўны дзяржаўны лекар вобласці А. Ананьеў накіравалі старшыні аблсавета У. Кулакову ліст з аповядам пра сітуацыю. Пасланне прапаноўвае і комплекс мер па абароне людзей ад пагрозы захворванняў жывёл.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**



«БАЦІЧЭЛІ». Фота А. Мемуса.

## Патрэбны музей

У Цэнтр яўрэйскай культуры прыйшоў ліст з Самары ад Маі Саламонаўны Пік. Пажылая жанчына доўгія гады захоўвала ў сябе дакументы, пісьмы, фатаграфіі двух сваіх братоў Пескіных, якія жылі да вайны ў Віцебску і загінулі на палях Вялікай Айчыннай. Мая Саламонаўна цікавіцца, ці можа яна перадаць дакументы ў Віцебск, ці будзе тут арганізаваны музей альбо хаця б які-небудзь мемарыяльны пакой, што раскажа пра гісторыю віцебскай яўрэйскай абшчыны?

Такія ж пытанні сёння задаюць многія людзі ў гадах, якія занепакоены тым, што дакументы, фотаздымкі, якія захоўваліся ў іх усё жыццё, стануць нікому не патрэбнымі і загінуць.

У габрэйскай абшчыны Віцебска вельмі багатая гісторыя. У ёй шмат слаўных, сумных, трагічных старонак. Матэрыялы пра гэтае ёсць у музеях Віцебска, Менска, Масквы, Іерусаліма, Тэль-Авіва. Яны праўдзіва адлюстроўваюць пэўны гістарычны момант, але не даюць цэльнай карціны гісторыі ўзнікнення, шматвекавога існавання і канання яўрэйства Віцебска.

Пагэтаму Цэнтр яўрэйскае культуры прыступае да збору дакументаў, матэрыялаў, што маюць дачыненне да яўрэйскай абшчыны. Спадзяемся, што калі-небудзь яны зоймуць мейсца ў музейнай экспазіцыі. Прыносьце да нас старыя фатаграфіі, лісты, дакументы, кнігі, грампласцінкі.

Наш адрас: г. Віцебск, вул. 1-я Калгасная, 4. Пішыце нам. Калі Вам цяжка прыйсці, мы наведаем Вас.

## Нашы — першыя

**У сталіцы адбыўся трохдзённы III Рэспубліканскі злёт вынаходнікаў і рацыяналізатараў прафесійна-тэхнічнай адукацыі і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. На ім першае мейсца заняла аб'яднаная (8 вучылішчаў) каманда Віцебшчыны. Яна адрознівалася ад іншых арыгінальнымі рацпрапановамі, тэхнічнымі навінкамі, цікавым афармленнем экспазіцыі выстаўленых работ.**

**К. СТУСЬ.**

## АДНЫМ РАДКОМ

**Віцебскі «КІМ» заняў другое месца на чэмпіянаце Беларусі па футболу.**

* * *

**Выйшаў двухмоўны 126-цістаронкавы даведнік «Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей».**

* * *

**У Віцебскай вобласці зараз жыве 1451 тысяча чалавек.**

**Наступны нумар газеты выйдзе 7 ліпеня 1993 г.**

## Віцебскія палітычныя дыялогі

*—Скажыце, што трэба зрабіць, каб наш дзяржаўны сцяг падабаўся камуністам?*

*—Трэба ў цэнтры сцяга намаляваць серп і молат.*

*—А што трэба рабіць, каб **гэта спадабалася** дэмакратам?*

***—Трэба на серп і молат паставіць чорны крыж.***

* * *

*Дэмакрат пытаецца ў камуніста.*

*—Таварыш, скажыце, калі **ласка, садружнасць—гэта** САЮЗ?*

*—Так, саюз.*

*—А СНД—гэта стары саюз ці новы?*

*—Зразумела, новы.*

*—Дык чаму ж вы вінавацiце Шушкевіча, Ельцына і Краўчука за пагадненні ў Белавежы? Хіба ж не за адноўлены саюз мы галасавалі ў сакавіку 1991 г.?*

## Вясёлы глобус

На адной вечарынцы два госця на падпітку шчыра разгаварыліся.

Адзін кажа:

—Бачыце вось тую чарнявую? Гэта—мая жонка. А бландзінка побач з ёю—мая каханка!

Другі:

—Цікава. А ў мяне якраз наадварот.

* * *

—Паглядзі, сынку, у гэтую дзірку. Зараз адтуль выляціць птушка.

—Ты, тата, замест балбатні ўстанаві правільна дыяфрагму, інакш здымак не атрымаецца.

## Аб'явы

З дапамогаю крэменю ачышчаю, абясшкоджваю ваду ў калодзежах і дачных сажалках. Віцебск, тэл. **2-04-45.**

Прадам двухмоўную кнігу «Складзі ўзор сам» (народны арнамент у побыце). Тэл. **37-28-44.**

Бясплатныя аб'явы. Тэл. **37-35-06.**

### *У кінатэатрах горада з 23 па 27 чэрвеня*

**«Беларусь»**

**«Вуліца Вясёлкі»** (ЗША). 9.40, 11.30, 12.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40.

**«Асуджаны на самоту»** (Японія, малая зала). 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.

Аўтаадказчык 14028.

**«Спартак»**

**«Прыгажосць распусты»** (Югаславія). 10.00, 14.00, 17.50, 21.30.

**«Эмануэль»** (Францыя). 12.00, 16.00, 19.40.

**«Кастрычнік»**

**«Праз каналізацыю»** (ЗША). 9.20, 11.10, 13.00, 14.55, 16.50, 18.45, 20.40.

Аўтаадказчык 365544.

**«Брыганціна»**

**«Бязлітасныя людзі»** (ЗША). 16.00, 17.45, 19.30, 21.15.

**«Фанданга для мартышкі»**. 15.45, 17.20, 19.00, 20.40.

**«Тры таўстуны»**. 10.30, 12.20, 14.10.

**«Каронны нумар»**. 9.30, 10.45, 12.00, 13.15, 14.30.

Аўтаадказчык 18179.

**«Мір»**

**«Анкор! Яшчэ анкор!»** (Расія). 9.50, 11.50, 13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 20.55.

**«Маладая вядзьмарка»** (ЗША). 11.35, 13.20, 15.05, 16.50, 18.35, 20.20.

Аўтаадказчык 362223.

**«Усход»**

**«Аголеная ў капелюшы»**. 14.00, 15.15, 16.30, 17.45, 19.00, 20.15.

Аўтаадказчык 332936.

**Відэатэатр «Віцьба»**

Аўтаадказчык 14945.

## *Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня*

**Серада, 23 чэрвеня**

**Беларускае тэлебачанне**

9.30, 21.35. «Мачаха».
11.20. «Бомж».

**Канал «Астанкіна»**

8.30 і 17.55. «Проста Марыя».
11.40. «Сустрэча перад разлукай».
20.40. «Азбука кахання». 5-я серыя.

**Канал «Расія»**

11.05 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.10. «Мая другая мама».
11.50. «Сільва».
15.40. «Апошняе лета дзяцінства». 2-я серыя.

**Чацвер, 24 чэрвеня**

**Беларускае тэлебачанне**

9.35 і 21.35. «Мачаха».
13.40. «Пераправа».
16.20. «Казка пра Зорнага хлопчыка». 1-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

8.40 і 18.15. «Проста Марыя».
10.20. «Азбука кахання». 5-я серыя.
21.25. «Коні ў акіяне».

**Канал «Расія»**

11.05 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

6.50. «Прыгоды Кале-сышчыка». 1-я серыя.
15.40. «Апошняе лета дзяцінства». 3-я серыя.
17.05. «Бераг прынцэсы Люські».
21.00. «Мая другая мама».

**Пятніца, 25 чэрвеня**

**Беларускае тэлебачанне**

9.00. «Мачаха».
15.55. «Казка пра Зорнага хлопчыка». 2-я серыя.
21.35. «Палёты ў сне і наяве».

**Канал «Астанкіна»**

8.50. «Шаснаццаць дзяўчат з шаснаццаці гарадоў» (Венгрыя).
20.55. «Арыфметыка забойства».

**Канал «Расія»**

10.50. «Санта-Барбара».
16.55. «Дзяўчынка, якая напісала слова «свабода».
19.25. «Гордасць і забабоны».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

6.40. «Прыгоды Кале-сышчыка». 2-я серыя.
8.10. «Мая другая мама».
11.30. «Маскарад».
23.00. «Перамажы д'ябла».

**Субота, 26 чэрвеня**

**Беларускае тэлебачанне**

8.25. «Палёты ў сне і наяве».
21.35. «Аўтар песень» (ЗША).

**Канал «Астанкіна»**

11.35. «Валянціна».
17.20. «Сапраўдны» (ЗША).

**Канал «Расія»**

11.15. «Да пабачэння, хлопчыкі...»
19.25. «Па-банку II, ці Удар у адказ».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.45. «Перамажы д'ябла» (ЗША).
20.50. «Мая другая мама».
21.45. «Дрэнная прыкмета».
23.20. «Іголка».

**Нядзеля, 27 чэрвеня**

**Беларускае тэлебачанне**

21.05. «Доктар Фаўстус» (Германія).

**Канал «Астанкіна»**

23.50. «Лэдзі знікае».

**Канал «Расія»**

11.05. «Апошні месяц восені».
19.25. «Опіум».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.30. «Іголка».
16.05. «Мёртвы сезон».




Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

●

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**

**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17. **Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**


**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, геаграфічна-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.


**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выходзіць штотыднёва па серадах**

Нумар падпісаны да друку 22.06.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**